ВІКТАР СЯМАШКА

# «РОМБ»

ШЭСЬЦЬ ВЕРШАВАНЫХ ЦЫКЛЯЎ:

«Ромб»
«НаросХрыст»
«Deadline»
«Цені кветак»
«ЗБожжа»
«Дамба»

У сваёй чацьвертай па ліку кнізе паэта-авангардыста Віктар Сямашка ва ўласьцівай яму манеры аналізуе ды інтэрпрэтуе рэчаіснасьць і ўласнае жыцьцё з дапамогай інструмэнтаў прыродазнаўства, этнаграфіі, астраноміі, сацыялёгіі ды іншых дысцыплінаў. Шэсьць прадстаўленых вершаваных цыкляў напісаныя цягам 2012 – 2014 гг. і канцэптуальна перагукаюцца між сабой. Цыклі можна ўмоўна падзяліць на дзьве тройкі (альбо «звышцыклі») аналягічна з чаргаваньнем трох рэвалюцыяў у беларускім мастацтве XX ст., кожная зь якіх складаецца зь дзьвюх дынамічных фазаў і аддзяляецца адна ад адное ў меру статычным пэрыядам.

## ПЭРФАКАРТА



пазнаю незнаёмцаў
кабеты ўглядаюцца ў твар,
        нібы ў спальных дамоў
        пэрфакарту
нябёсы ўтаропіліся…
(Марсам ды Вэнэрай)

выпуклае Сонца
сядаючы ўзыходзіць
        раніца змотвае
        цені ў клубок
навокал малака цяжар

оооо…оооооо…ооооо…о
ооо…ооооо…оооо…оооо
оооооооо…оо
        парк патануў
        у пене Сьвіслачы



# PRACA – VITA

за добрае дзякуй Богу
у благім вінаваць сябе

нашыя імёны
ня маюць ніякага
дачыненьня да сутнасьці



лянота стамляе
праца бадзёрыць

мала часу ў гультая
перад працавітым –
вечнасьць



# JON – NOJ



ад аду да ладу
голым голасам
logos вядзе
        рыбаў з рыбаў
        зуброў з зэбрамі
        конікаў на конях
        вожыкаў з вужамі
        жонак з мужамі...

ён – Ной
капітан
ня юны
ня ные
буян ды ўюн
праз акіян
мэрыдыяны

ня-ў-рым-
сьлівы
ня-ў-мір-
учы

праз глянды календаў
роем рынем у вырай!

Ён – Ной!
Ён прыйшоў, каб паклікаць астатніх



## БЕЛЫ ШУМ

Месяц
на донцы
колцам



абрысы хатаў
пад шумным
сьнегам

сям’я, быццам
карціна з пазлаў,
зьбіраецца на каляцы

праз гадзіну пасьля абеду
й да гадзіны перад вячэрай
галава працуе асабліва плённа:

*чалавеку заўсёды нешта ня так – пастаянна ня тое надвор’е, грошай заўсёды няшмат / бо самае прыгожае не належыць чалавеку – гэта прырода ды ён сам, натуральна / толькі прымітыўны фаляса-цэнтрычны мозаг можа ўспрымаць лес як хаос / насамрэч, там жа дэталёвая прадуманасьць, гармонія найвышэйшага парадку, ускладнёная да бясконцаганазіраньня й разуменьня! / лес любіць позірк архітэктара, багаслова, філёзафа, мастака / галінкі ў дрэваў могуць быць толькі такімі, вада цячэ аніяк інакш, вецер дзьме там і дзе трэба / лес значна ўтульнейшы за сад альбо парк*



## МЯДЗЬВЕДЗІХА

калабокая мядзьведзіха
пярліну носіць
у сынхроне з пупышкамі



пад спадніцай
пуп цытрыны
сьпее сочны

навародак
пахне глебай ды хлебам,
цёплай вільгацьцю

ён ляжаў у тумане
покуль Поўня
вяршкі пампавала
ў грудзі маці



у дзьвярох цела захраснуў
цяпер пашчуся...
.......................

высмаркаў мазгі ў анучу
склаў канечнасьці ў кучу
стаў

*лёгкі, але поўны*
*роўны, але ня просты*
*празрысты, але выразны*
*гнуткі, але пругкі*





## БІТКІ

Поўня расьце з Пасхай
кірля з Поўначы выседжвае пісанкі

дрэвы аднатонныя сваім ценям
ламаюць паветра крашанку





## ПРАЗ ТРАКТАРНЫ

пераражджаюся з хвіліны ў хвіліну
перапаўзаю з брамы ў браму –
берагі чыгункі выпраўляюць марудны ланцуг,
сонны
сонм
самоў без галавы й хваста
між велічэзных збудаў няпэўнага часу й прызначэньня
сярод гурбаў пяску, друзу й мэталаканструкцыяў
вяртлявыя трубаходы крыжуюцца з мастамі ў нікуды
за дратаванымі плытамі з чырвонымі пэнтаграмамі
паліцца смала, ліецца ў каналы бітум
уздоўж разграфітчаных гаражоў, скрозь пусткі, між бэтонных плітаў
па прыдушанай глебе, пустыя скрыні й дамы на зьбітым асфальце,
побач дзікія сьцежкі да алькаголікаў, што схаваліся ў ямінах,
бамжы ў бамбасховішчах,
ліхтары на слупах
нагадваюць пра дрэвы колішнія –
усё для нічога,
тут іншае неба
дождж змывае іржу
з вагонных шыбаў



## ЛЮДЗІ НА ЛЁДЗЕ

*– р-р-рыба быр-р-р!!!*

бадзёры крок
цыфэрблят шырыць
кава тушыць вагонь
без увагі стыне



*– ліць эціл?*

а зорка ня сьпіць,
штоноч стаіць
па-над чужынай,
рэтрансьлюючы непахіснасьць

*– робім ромб!*
*– рубім німб!*



## РАДАВОД

дачку назвалі ў гонар бабулі
бабулю цяпер клічуць па бацьку
ва ўнуку праявіўся дзед

маці з татам
зматаліся ў вяровіцу,
у дуба камель





# НЯДЗЕЛЯ

хочацца столькі
пераглядзець і праслухаць,
але сяджу ў цішы –

*нядзеля тыдзень дзеліць*



трэба столькі
панарабіць, перапрацаваць,
але ж не зварухнуся –

*нядзеля Бога дзеля*



## НОЖ

між сьцяною дома
ды шарэнгай дрэваў
рушу як груз, падчэплены кранам



строга між паралеляў,
не закранаючы аніводную зь іх,
як структурны складнік...

*згадваю тое,*
*рэжучы масла*



# КІНАГЛЯД

## I

плян сьціскаўся ды пнуўся:
    дамы на дамы наплывалі
    наездам аўто на аўто
    мікрараёны, бы макраайсбэргі
    церліся ракурсамі
        зь небасхілу ўзьняліся
        ‘шчэ ўчора нябачныя
        дахаў ды вежаў стоп-кадры,
        пагоркі наконадні ніцыя
    рака парушала абрысы
    набліжаліся моры ў фокусе
    звышманахромныя



сьветапогляд звужаўся
ў пункт гледжаньня,
раставаў у ваду
ў схопках ды потугах

## II

празь лінзу
                рэчаіснасьць
схлопваецца
                ў супрацьфазе:

    адна адную дублюе
    люстэрка ў люстэрка,
    між імі – вакуўм

шматкамэрнае вакно дажджу –
рэбрамі
        расьсякае
        погляд
        размывае
        выгляд



*пятля забароненае сымэтрыі*

## III

гранёная панарама наяўнасьці
плыве да схаванага й далёкага цэнтру:



разьяжджаюцца куты дамоў
дарогі доўжацца
чым далей, тым вузей
растуць насы, вушы ды падбародкі

таму болей за фас кажа профіль

## IV

дарослае стаўленьне да жыцьця:
праглядаць стужкі ў паўвока,
праслухоўваць плыткі ў паўвуха
тут знаёмае,
там зразумелае
выбіраць замест чорнае гарбаты зялёную
(быццам бы для лепшае канцэнтрацыі)



# СЬЦЯПЯНКА

уваліўся нібы ў студню,
скрыпнуўшы дзьвярыма
    прыгараднага вакзальчык*ууууу*
    *ууууууууууууууууууууууу!!!...*



за збудам бор густа цурчыць салаўямі
абапал шляхоў расквітаюць сэмафоры

вечар пахне лопнутымі пупышкамі,
а мае рукі – скурай двухдзённага дзіцяці



## КАМУНІЯ

калі ня маеш пытаньняў да Бога,
Ён ня мае пытаньняў да цябе





## ЧАЯВАНЬНЕ

дождж сёрбае
халодны настой
зь першых зёлак

    крокі праражоўваюць
    мокры пясок,
    сьлізгочуць па траве

* * * * *

ланцужкі кропляў
выявілі шкло,
рыхтык жэсты пэндзля
здабылі палатно



    на пэроне
    ў мокрых ценях
    россыпы
    зялёных аскепкаў



## ЦУДЫ ПРЫРОДЫ

жыў ды няма
не было ды паўстаў
узьнік ды зьнік

толькі
рэха разышлося
па ветры й вадзе-
*дзе-дзе?..*





## ФУНКЦЫЯ ДЫ ЯКАСЬЦЬ

паэта – назіральнік,
музыка – саўдзельнік



*   *   *   *   *

у тых, хто якае,
адчуваньне ніякае

*   *   *   *   *

як прамачуся,
так і высахну

*   *   *   *   *

суд судзіць сам сябе,
а думае, што не

*   *   *   *   *

няма маны –
няма зьменаў

*   *   *   *   *

у маладухі – мала духу
у маладзёна – мала дзён



*   *   *   *   *

ён – недаяна
недаяна – ён

*   *   *   *   *

думкі матэрыялізуюцца,
калі перастаеш думаць

## ШАРАПАДОБНАЯ



“чую – ня чую,
віджу – ня віджу”
успрымаем шматкроць адбітае –
прыпадабненьні, падробкі, эрзацы, сымулякры...

Сонца засявае ваду
на паверхні – бруд літараў
чорныя, тлустыя
нібыта з нафты

бессань рэжа вочы –
змывай яе адварам
азірніся ў хаты люстра:

там дзеўчына на мячыку
жанглюе грудзямі ды сьцёгнамі,
каленямі ды плячыма,
галавой і азадкам,
жыватом з палудзеньнікам...

*вы ўпэўненыя,*
*што мы памятаем*
*дакладныя значэньні слоў?*



## ЛЯХАЎКА

У Менску мала мейсца
для жывых і памерлых

ён найлепшы
на выходных у траўні,
вымераны пешшу
ўздоўж мёбіюсавай
стужкі Сьвіслачы

правядзеш кабеціну па выгінах –
то пакажа свае пакручастасьці



* * * * *

маршчыністыя локці Сьвіслачы
сагнулі рваныя цягліцы тратуару
<чарвякі

цякучы мёду пот
мяшаецца з крупамі дажджу
<куцьця

ліхтары матыляцца
ў павуціньні дратоў
над самотным трамваем



# СОК



з марлі
нябёсаў
цісьнецца
сок
у грунту мякіш
струменіцца
водар
угару

ноч дорыць
дзень доіць
сон сілкуе
будня боўдзіла
на дне дня –
човен ночы
варочае хвалі
сну:

вада праклала
сьцежку ўгару,
вядомая пера-Поўняй,
што адорвае долькамі
тыдзень і тысячаноч

*слаі слоў у схоў –*
*ідзе дзе-нідзе-нь:*



гудучыя дрэвы хіляцца пад заравою лавай
неба павісла на галінах
раніца дадае колеру ды рэзкасьці
варушыць лісьце й валасы немаўляці
дзіцятка распускаецца бы кветка
штогадзіну шырэй і ўразьлівей –
неадрыўна назіраем
за непаўторнасьцю моманту...

дарогі рог паглынае
сівер абяцае мора
і ні з кім ні пра што
ня хочацца гаварыць





узмах нараджае полымя –

рака дыму
выяўляе
рэльеф промняў





## d/b

адпусьціўшы бараду й гадзіньнік,
крочу вепручыным шляхам,
што выразьней там,
дзе лес цямней



ледзь адрозьніваю
вэртыкаль ад гарызанталі
позьняе ад раньняга
левы бок – праваруч
блытаю сьнежань ды студзень
арыгінал і адлюстраваньне

    на шчоках сівая пена
    алейнае зарава абапал

чым бліжэй да скону,
тым менш лішняга,
                    колішняга
скура ды косьці
ў сетцы стынуць



**СМАКТУНОЎСКІ**



немаўля круціцца компасам
мацае цыцкі маці
*«смокча моўчкі сон», -*
*маці кажа*
сьціскае ў кулачку
пук ейных валасоў



## АРЫГАМІ



бурагон выдзімае
кроплі з хмары –

прыгадалася
вільготнасьць
хатняга печыва

арыгамі
цяжарнае яблыні
ахінае малако дыму

зрэнкі каляровай карамэлі
высьвятляюць рысы згіну



## ДАБРАБЫТ

калі жонка выбачаецца,
а муж дзякуе





## РЭВЭРС



явар,
заліты заходам,
уцеплены мохам Поўначы

зорка-папараць
расхісталася
надвячоркам

паветра вар,
што ўдзень каляхаваў,
стыне ў студзень

жучок узьбіраецца
па промні
ў будзень



## ВЯЧЭРА



ракавіны хакаюць
у вусьці крыніцы,
у такт жытнёвы позех
вабіць лазы лёзы

дуб-павук
шавеліць лесам,
сьцягнутым
сонечнай яечняй

мы ж п’ем, задыхаючыся,
халодны булён глею,
заядаючы травой
зь вечаровым бурштынам,
Месяца плаўкім сырам,
    вяршкі растаюць
    у асмуглай каве,
    пракладаючы шлях
    чумаку



## ЛЕКЦЫЯ



пасярод
узаемапранікальнасьці падзеяў
і пладавітасьці праблемаў
знайшлі
супакой і справядлівасьць,
гармонію духу



# АБСЭРВЭР



стракатая Поўня
выглядвае з-пад дэкальтэ:
*цы-цы-цы-цы-цы*-цыцкай (!)
распырсквае зоркі

птушкі ды жабкі
нібыта на нітачках
перасоўваюцца
з дэталёвай дакладнасьцю

рухавы ровэр
уцякае з-пад ног
зьдзіўляецца лёгкасьці цела
мозаг

ліхтары
толькі блытаюць зрок
цяжкія піраміды сьвятла
тонуць у наварыстым муле



## СЬНЯДАНАК



яру цяга
вады выцяг

дрэва ўздымае камень
вецер паціну выцер

вуха кіруе ротам
мае рацыю ранак:

шлюбнага трэньня
вам на сьняданак!



## КРЫНІЧЫШЧА



пад узмакрэлым лісьцем
абсалютна сухая глеба,
шкляны пот на сьлівах

крынічышча рэзануе,
усланае вільготным пяском
ды перагароджанае асінай

абламаны стан,
як пазногаць з рову
працінае хмарны гамак

пад цяжарам
каменнага ствала
труцца іскрыста рэбры

зямля пакрывае голаў
вада шмыгае ў горла
узбоўтваецца погляд

і сохне смуга
ў роцішчы



## ДА РЫГІ



па дарозе да Рыгі
вытанчаюцца сосны
даўгая Даўгава шырыцца,
намывае пяску ў валасы
    густыя букеты жоўтае квецені
    узорам на швэдрах зь вятрыскі

*Еду ў Рыгу*
*па соль, па скрыгу!*

тулавы труцца лупамі
да першых кропель
бурштыну
    сок сасны
    кісьля мурашніка
    соль улоньня
кіпцюры голак
вецер трэплюць
са сьвістам

мох на даху
прышпільным –
    пляц Сэрца,
    пляц Лёгкіх,
    пляц Страўніка...
яблычны прысмак
у скамянелым марыве



# СУМ – МУС



расслабленыя цягліцы твару
прымаюць за сум назіральнікі
яны мусяць змушаць

зьмясьціце мяне ў карцар,
шчыльна набіты цішай
ды вусьцішшу



ці то прысьнілася,
ці то ўявілася,
што прыйшоў у сваю кватэру,
але пустую й белую



з вухам
пасярэдзіне твару

верхняе падднішча
надзіва не блакітнае

задзіраю твар
яму ў поперак

плыву скрозь
павольную столь



## НАВІНЫ



ня вер людзям
ня вер кнігам
ня вер ТВ
ня вер прагнозам
і апытаньням

(голас вядоўцы
падманлівейшы
за зьнешнасьць)

праўды пра тое,
што тут адбываецца
ня скажа ніхто

(ня ведае бо)





квіток у спальны аўторак
прынясе немаўля
поруч з новымі ведамі
у кішэннай ціхмені
пад вады ўтульным покрывам

квіток у спальны аўторак
заку́сіць вусны сну
праз вока вакна
знутры ў атруту
на сьнедадзеньні

квіток у спальны аўторак
адчуваю асобнасьць
шкілета й мяса
думкі ды дзеі
нярух у неруш



## НАВЫВАРАТ



пад шатамі дуба суха й ціха
толькі шоргат птушыных крылцаў
грае струнамі лубіну

шматкроць перасекчы крыніцу,
каб выйсьці, адкуль прыйшоў,
пераніцаваць сябе, каб лес выплюнуў

па берагох кашлатых
ельніку краты
згінаюць цябе пад сабой

дзіковыя сьцежкі ў разрыты луг,
у канюшынавае поле, чорнае
з рыскамі рамонкаў

дробныя валошкі,
кусты з касьцельным пахам –
сырая непралазь, травяное сьлізгоцьце



асака пазначае алёс, мухамор – баравік
галіны сьцябаюць па твары,
тыцкаюць у вочы, зьбіваюць з ног

калідорамі прасекаў,
штучнымі шыхтамі елак
па зарослых каляінах на прасьветы!...

раптоўна знайшоўся
мокры ад дажджу й поту,
але не падмерзлы

акурат, калі смог
сьціраў пэйзаж за ракой
і подых на шкле ня высах

## УТРОХ



у чорным кісялі
белага зерня
шчодра намяшана

зырка
ды густа

па сьліне дзіцяці
бясконцай
уздымаемся ўтрох

да родаў і
па-за сконам

*як падзяліць на два бакі*
*і дзе знайсьці палову?*
*што нельга дзецям –*
*нельга й старэйшым*
*калі ты кажаш, хто ты,*
*то найхутчэй брэшаш*



## ПОЗЫЎ



Поўня зьзяе з-пад зямлі
праз стаў
край набіты камянямі
цераз край
кроў на рукох сваякоў
вежы ды межы

рушу ўздоўж ды па-над
фарбую саўрэлы тракт
носам
барадой бараную
зелянее жалеза
на ботах босых

ды неяк няёмка ідучы
выгодней лежма лежачы
назовамі здушылі позыў
зблыталі з кімсьці

Бог даў нам час
не згубіць на гульбішчы
будучыня б’е ў каршэнь
кашчавай кісьцю



## ДОБРАЕ РАНІЦЫ



такі разьбіты, стомлены, прыгнечаны, загаслы,
што прачынацца ня хочацца

урэшце змушаеш сябе расплюшчыць вочы,
а ў твар дзіцятка ўсьміхаецца



## ВІТРАЖ

рудая дзясьніца дуба
расьцякаецца ў блакіце шыбы,
пэцкае лоб
....................................



чорная тканка поўначы,
зашпіленая на ўсе гузікі,
што гарадзь у вачох
сына

дуб адбівае Поўню
пырам



## МАМА



мама!
зь нямоглага мычаньня
мама!
неўтаймоўным болем
мама!
малочнаю смагай
мама!
нібыта кінуты
мама!
зьнясілены боязьзю
мама!
з пустэчы самоты
мама!
у гонар любові
мама!
паўсюдна
ты



## СУТОКА

I

пад тонкаю лускою абрынутае лістоты
скутая зямля выперла камяністыя хрыбетнікі,
растапырыла косткі камлёў

слаісты перакладзены рэльеф
шавеліць вусамі ды бакамі,
разводзіць хвалістыя бровы

праз крынічны тунэль –
масты замшэлых вольхаў,
скокнуў на той бераг – трапіў у тапіну

*пад тонкаю лускою абрынутае лістоты*

II

гадзіньнік, абмазаны жужалем,
самаўпэўнена даводзіць лічбы,
што труцца шчыльна
рысавым зернем у вораку



няўбраная кукуруза забранзавела
горыч зёлак засяроджвае
кісласьць актывізуе думак
насеньне,
загорнутае ў гліну,
як сала шмат,

нібы рыба
брухам
на імгненьне
прымяла водарасьці
зь літарных радкоў

III



крупка губляецца ў поўсьці коткі
няма чаго сябе шкадаваць

дзьме
хвалямі
ў дзьверы

сыплецца
цячэ
сьлізгоча

яблыкі набіваюць мех
да трэску

IV



абцерся дубовым лісьцем
пайшоў па ваду з катком
па тым баку сьцежкі,
па тым беразе крынічкі

сыплецца,
цячэ,
сьлізгоча
                    сьнег

дзьме
хвалямі
ў дзьверы
                    вецер

V



з жабкай на ручыцы ўзлазім угару
па прыступках карэнішчаў,
набухлых валунах
да сьветлае Поўні

вагонь серабрыць зубастыя дугі ельнікаў
перавернутую місу капішча

на крыжа рагу
ў міжкрынiччы
выгінальным
у сутоцы сутак

кожнае слова як скарачэньне цягліцы з потам
кожны склад патрабуе сьпеву без слухача
ясьней ды прасьцей за дуду

VI



Сонца ды Поўня цяпер аднаго дыямэтру
толькі Поўня да нас тварам, а Сонца задам
разам з усім небам па тэрмінатары
ноччу – празрыста, удзень – зацягнута

восень раскрывае мапы,
дэманструе, як справы насамрэч
бамбардуе пладамі хаты,
струменіцца водар – набывае смак холад

на лецішчах поўныя ванны дажджу,
самотныя пэнсіянэры туляцца да печак,
разьбіраюць зьвезеныя з гораду рэчы –
*ня лезь у нерад… мяне паперад!*



узламаў калюжыну, каб умыцца,
а поле яшчэ ў рамонках

дарога нясе сама
дарога нясе сама

калі памерла котка,
Сьляпянка стала высакавокай

паўтораў ня будзе
прынамсі, не плянаваў



## МУТА

сорамна паказвацца
перад людзьмі
за некалькі дзён да скону

*пацягнуўся ды выцягнуўся*

адно застанецца
з малака каламуцьцю
сподак





# ВЫДЫХ



даўно не было настолькі бязгучна:
толькі ту-
шоргат скуры аб скуру
-ман

цягам глыбокага выдыху
пасьпявае згубіцца пан-
ды наноў спарадзіцца
-талык





разумныя думкі
мусяць выклікаць усьмешку

наступная раніца
цямнейшая за папярэднюю
(ня цяміць)

Сонца губляецца
ў вейках хвойніку

кава зьбегла тройчы
кава зьбегла
кава!..



## PATRIA



змагар
смагаю
зморaны

чым добрага болей,
тым яно горай, –
людзі ня маюць меры
ў вытворчасьці веры

другі пост
цяжэйшы за першы,
а трэці пусты...

найлепшы бізун
ды ручнік лепшы –
далоні зямлі



## ЧЫСТЫ ЧАЦЬВЕР



гаспадыні зьдзіраюць з шыбаў інь
альбо сьціраюць гразноту,
змываюць пыл,
сушаць вільготу...
ці то папросту
вітальна машуць
адна адной

сын бацьку хрысьціць
ракой па калена
гарой па пояс
дарогай па шыю
той крыжык
спрабуе
на зуб



## ХАЎЕР

калі пачаўся буран,
пасажыры ўтаймаваліся –
    супольна змоўклі, схавалі прылады,
    не зрываліся на кандуктара,
    не абмяркоўвалі вячэру,
    не спрачаліся, ня біліся за сядушкі…
толькі зьнямела ды пільна, бы дзеці,
пазіралі празь лёд





## СЬНЕГ



дыхаю хлебам
лязом лезу
глыбей у глей,
маршчынячы пальцы
покуль

шкварчасты сьнег
разам з дахамі
ў тлушч
не растопіцца
цалкам

*мароз казыча*
*блакіт пад сумётамі*

у сына валасы гусьцеюць,
а ў мяне ўсё меней
затое зубоў цяпер
роўная колькасьць

*сьнег асеў*

адзін хлопец казаў,
што ад хлеба
ягоная сьліна чырванее
ды харкнуў у доказ

*сьнег зьнік*



## ТАЯ



лета, як і раней,
пашырае прадметы й суткі
булёністы сок пусьцілі сукі

у адным тэмпарытме
чмокі ды смокі, штуршкі, хада

там – між крокаў,
між уздыхам і выдыхам,
між ударамі пульсу –
тая, хто змусіць
цела растаць



## СШ

*Сонца села,*
*пакінуўшы дрэвам*
*сівую пасму*



стары настаўнік геамэтрыі
зь ядроным пахам таннага тытуню
пэцкае падручнік крэйдай

жоўтыя кончыкі пальцаў
зазналі перасячэньне паралеляў

* * * * *

*Зямля кінула цень на неба,*
*Месяца завушніцай спакушаная*

яна апраналася ў самае пярэстае –
шырокія капелюшы з чорным макіяжам

яна сьпявала ідучы проста па завулку
яе ведалі тутэйшыя –

да таго, як звар’яцець,
яна працавала настаўніцай
сьпеваў

* * * * *

*раскусваю малекулы гарбаты –*
*застаецца зямлісты прысмак*

фізыку падабалася геаграфіца
у настаўніцкую прапускаў наперад,
ацэньваючы прыцягальнасьць паўшар’яў,
а тым двум востраканечным вульканам
адразу паставіў 5



падпірала іх рукою,
абцягвала тугім станікам,
навісала імі над партай,
навочна дэманструючы
старарэчча Дняпра



# НЯ ТОЙ



дыссынхрон з полісам:
куты ўпалых шчокаў
сустракаю часьцей,
зьдзьмутыя грудзі,
сьціснутае гузно

*уключы мозаг!*

ён – ня той,
ён – хворы на рак:
ападаюць сквэры,
узносяцца зацьвярдзелыя пухліны,
расьцякаюцца трупныя пляміны

*прэч адсюль!*



## ПЯРЭСМЫК



нашыя шыі
                    падоўжаныя ценем
па перашыйку
                    завеянае дарогі,
нібы косы плывуць
                    чорныя

мы – касінеры,
                    крочым цугам
крок у бок –
                    адразу ў белы алёс
                                        па пояс

руш!
    не парушаючы тонкае стужкі
акрэсьленай ветрам
                              ды юшкай
у паўкроку да перамогі



## weN



новыя жэсты,
але ўцямныя кожнаму маладзёну
трансьлююць, накіроўваюць,
змушаюць да вібраваньня фібраў
усіхніх!

новая міміка
гульня мускулаў скулаў
паведамляе іншыя рэакцыі,
да таго няўжытыя
узбуджае схаваныя рэзэрвы
рыхтык!

у пустых жыватох прыгажунь
зьяўляюцца насельнікі
вымя назапашвае патэнцыйны сырадой:
*рута-мята-футура*
*буда-дуб-урбан*

мяса вал перад постам
гостыю кожнаму госьцю
малітвай Літва ліецца
праз усядзённы нешпар
зь Велькнца сьвежы выйшаў,
як сьвядомае немаўля



ты так мовіш,
нібыта праглынула воблака,
плывеш па алеі,
    намаляваная алеем
    з гладышом у паху





## Й!



шлях навобмацак –
самы дакладны й просты

амаль зусім іду
вельмі набліжаюся
практычна дасягаю

чым больш магчымасьцяў
тым меней часу
          еней час
            ней ча
              ей ч
               й!





дзіцёнак разарваў лусту белага
на кавалкі розных памераў

у руцэ ягонай
паплыў чакаляд...

мы трапілі ў арку Божага провіду,
складзеную зь зерня граната

жыліны камлёў
ціснуць малако

*- хто піша маёй рукой?*
*- ці не зашмат пытаньняў?*



## СЭРЦА – ЛЁГКАЕ



іду, боўтаючы нагамі
дарога плыве па твары

з правалам у сэрцы
з прабітым лёгкім

у кароткі завулак
нетаропка

прапойца
заняў кут

*за мной*
*чалавек*

касір выбівае
працяглы чэк



## С/Т



з узростам прыходзіць адчуваньне
ўласнае неўміручасьці:
дзядзькі, якім ужо пад 70,
будуюць сабе новыя лецішчы

*толькі Бог мае рацыю*

ці магчыма не схлусіць
у папярэдняй размове з Ірадам?
ваюючы з брудам,
не запэцкацца?

*толькі цуд варты фідуцыі*

людзі цягнуць у грэх
навакольныя спакусьнікі
звыкліся са страхам сьмерці,
будуюць сабе новыя лецішчы



сум не сасьпеў,
бо сон прысьпеў







іськіна перадаецца з вуснаў у вусны
быццам пацалунак –
будучыня прыйдзе ў час

*   *   *   *   *

заўсёды сканчаецца заўтра
ці ты, як ясі, то ня чуеш?
заўтра скончыцца назаўсёды!!!



# ЖОНЦЫ



гальлё, агорнутае ў квецень
дзьмухавец разьлятаецца ў зоры

дзіўлюся мацней на адлегласьці,
бязьмерна табе ўдзячны



**FOG AREA**

||



дарога плыве насустрач
з-пад космаў хмары,
шчокамі студзіць лоб

полаг,
раскіданы быццам
лапікамі ваты па ялінцы,
нябачны знутры

воблака вішні
адпускае пялёсткі лішнія
ў зораў пагост

||

шлях, брукаваны
бляскам каленяў
пад грудзей плёскат
танчэй за разьбу ніту,
як выхад
зь перакуленага збанка –



паненкі ходзяць дагары донцам
тудэма-сюдэма ў панадлодцы
«кругло-мало балоціца»

||

брук васпаваты
і нябёсы палосамі

бо дождж

пырскае,
струменіцца,
прадзьмувае вачніцы

||



на штыку дарогі
Сонца колца
з квадрай Месяца

у варонку ўздыху
зьлятаюцца
рыбы ды кірлі

і нічога на выхадзе

||

траса ўсьпенілася
з броваў здымаю
гірлянды поту –
трасца!

успомнілася,
што мала зьмяніўся
з таго часу,
як уключылася памяць

рака абмяжоўвае
крывабег пожні,
сонныя водарасьці
пад штучным сьвятлом
матляюць языкамі



||

не азірайся! –
хутчэй дойдзеш

скрозь імгі габелены
ня трапіш у сена скрут

толькі ты,
пагорак кукурузы
ды смог



штось няёмка
раптам не пачуць
уласных ног

рось змуліла гук,
адпаведная ноч – колер
шукаеш вішні па контуры

вось поўны цэбар
нясу дахаты
скрозь...

‖

прайшоў праз зачыненую браму
незаўважна для аховы
й самога сябе





выварочваю той сьвет
выграбаю ўвесь мёд
зь бяздоньня...

мы адыдзем,
калі ў наяўнасьці
не застанецца патрэбы

«Мяне няма
ў гэтай магіле –
Я звонку»



## ЛІТАВОР



найплёньнейшы крыж – Крыўя:
нават хлусіць тут грэшна ўдвая –
абражаеш і Бога, і мову...

як загадзілі загадзя
гісторыкі-гістэрыкі,
пятлёй укаранавалі караля

жук наматаў сябе
на пажыцьцёвы скарб

застылі боты
ў абязножаным кроку
перад возерам,
што намыла
друзу воз

срэбны прожылак
у пародзе
тугою лёсткай з галавы

вада змыла
адсталую скуру



я – апарат савецкае вытворчасьці:
без кулака па кумпале
не запрацую ды ня ўцямлю







хлопчык узяў каменьчык,
хацеў зьесьці,
але паклаў акурат
на тое самае мейсца,
дзе ўзяў

па-за кутом
машынаў шып
скручваецца ў клубок
дажджавым чарвяком
.com





клён
ценем
сьцелецца
акурат
у сьцежку

так і мы ўзаемна й пранікнёна сплеценыя
у нашым кошыку – дзеці



## ПРУЖАНАМ



паўзу́ паўз па́ўзу,
прыціснуты мармурам шатаў –

трансцэндэнтны супраціў
бадзёра перабірае рэбры

зорны хлопчык насустрач
сылюэтам бяз твару вонкі

муж надзеў на галаву жонку –
папярхнуўся дойкамі

шкілет селядца ацэньвае роўнядзь
узважаны лад вымагае ўвагі

пад Ветахам плыве касьцёл-велярыб
ілюмінатарам пазірае скрозь піхты

палацык, схаваны ў парку за Шырмай,
паглынае цябе кадыком вежы

*соладка*

*неба трымаецца*
*на клямары*
*ў брызках*

*туману маннага*
*густа намешана*
*на сутоньні*

*Менск, дзе тваё джала?..*

сьвяціла адспружыніла ад Пружанаў –
да сустрэчы ў цэнтры!

## СЬПЁКА



з-за сьпёкі
кісьне натурморт у станіку
    цурчыць вульва
    вынесла на бераг чэлес
    сьляза з асмуглае смочкі

засучыў рукавы ды штаніны –
звужаюся
            содням наперакор

Раман скіраваў сваю сківіцу
ўзжоўж праспэкту
    упоперак вуліцаў,
    назовы якіх
    не адпавядаюць напрамкам



# МІНАКІ

кабеты верацьу злыя прыкметы
кульгавыя мянчучкі канстатуюць гэта –
    абнаўленьне штодня запавольваецца
                                        да штотыднёвага
    дай рады сваім пунктам гледжаньня
    здабудзь сэнсу:



    мы проста мінакі ў Менску

гэты горад – мужчынскага роду
                    ў кашарным стане
                    узброены фалясамі
                    абцяжараны
                                        крыміналізаваным мэнталітэтам

мянчучкі расчэсваюць менчукам сьпіны
тыя яйкамі ўшаноўваюць прахалоду
кнігі навязваюць ім смутак, страх і правіны

                    *выпадкова*
                    *краем вока*
                    *ўбачыў у адлюстраваньні*
                    *свой твар*
                              *і не пазнаў! –*
                    *суворы засяроджаны*
                    *троху незадаволены*
                    *чымсьці*
                              *скандынаў :(*

з гадамі
менш ясі
ды сьпіш
    рукі робяцца карацейшымі
    гак казыча пад рэбрамі
    узрост памяншае рост

Менск імкне мінакоў



не пачнеш зь сябе,
ён зьменіць цябе сам

праз вачніцы пляцаў
трашчаць шчыліны вуліцаў
праспэктаў зморшчыны вэнджаныя
стэлы паўсталі па-над уздыхамі дахаў

*- Не,*
*гэта не сівізна,*
*проста пад дождж трапіў :)*

Менск замыкае мінакоў у МКАД



у нашым доме
пастаянна зьнікаюць нажніцы, грабянцы ды лінейкі,
хто б тут ня жыў

захацелася пашукаць старых знаёмых у Нэце:
дваровых сяброў, аднаклясьнікаў, былых каханых –
таксама нікога





гара паўстала
набрынялай маціцай альбо
гарбом бабулі перад алтаром
заснуўшым цмокам ці
ўспаленым пухіром
гара паўстала



у густым паветры
марудзіцца крок
цяжэе цела

дождж узьбіў дзяжу
пышная флёра
дадала араматаў

ногі вязнуць у сьліне
што ж? –
зробім гэта павольна







музы́ка высякае храм
у стромай скале часу

там, дзе Бог
губляе імя



## АЛЕЙ І МЁД І



*Сонца доўга не хацела заходзіць,*
*бо хмары схавалі яго да самага вечара –*
*паветра напоўніў алей*

я сяджу зьніклы
ў мядовым індыйскім строі
схаваны за вачыма
буйна разбухлы
пад маністамі поту

*Сонца ня ў змозе*
*пераваліць за мяжу дня*

я ў фатальным фатэлі
прасунуты ў боты
уцісьнуты ў акуляры
злоўлены за...

*Сонца ня ўстане*



## СТОРЧ



усёдаравальны бацька-Бог
строгая маці-прырода

муж – зэдлік
для жонкі сваёй

бо без жывата –
у кабеце пуста
гучней за словы
шлёпаньне вуснаў

пасьля таго, як мыю сыну ногі
ён пачынае хадзіць задам наперад
яго вочы, як і мае, сторч дном

няма закону, акром Божага
з Богам мы можам усё!





старэча накараскаўся на высахлы куст

дождж абазначыў сухія акружыны
боршч заліў макаўкі вольхаў
промень намотаны на галіну

той, для каго гэта створана,
яшчэ не ўступіў у правіны





квадрат, абточаны да кола,
нібыта дзённы сон

п’ю яго ўзахлын
і не магу надзякавацца

(у такія даўгія дні
зьмяшчаецца па два сны,
але ніводзін ня памятаю)



## STOTIS BLUES



я стаяў на вакзале *(2 разы)*
і чакаў на аўтобус
колькі гадзінаў запар
я чытаў Сьвятое Пісаньне *(2 разы)*
я ведаў, што вакзал
хутка зьнясуць

кірля замерла
бялей за неба
бліснула зоркай
над Сьвіслаччу
вось яно! –
бясконцае набліжэньне
вечны пачатак
і зьяўленьне бяз скону

прыйдзі, вада! *(2 разы)*
неба загудзела знутры
удар звона ня гаснуў
язык зьнямеў *(2 разы)*
мора забілася ў нос
набліжэньне спынілася
..............................



бо горад захапілі бандыты
кампактна склалі ў дамавіну
таму намагаюся бачыць
толькі родных
мару распасьціся у пару
на бліжэйшыя паўгадзіны
пакуль не падцягнуць дызэль *(2 разы)*



[аро]
[эба]
холад поўз
з носу вылезьлі ногі
сярод ночы дзіцяняты
сьведчаць Сонца ўзыход



## БРОМ



Густаў Бром
сабраў аркестру
ў Брно

бо мусіў быць
падоўжаны
парэзаны
паміраны...

Марк Ротка
не задаўгі й не закароткі
загудзеў пустэчу

апрануты ў ваду
стыне супольна
слоі вады
ня зьмешваюцца



# ГАЗ



хіба можна неяк апісаць словамі
суцішанае пясочнае зьзяньне
высачэзных таполяў на пагорку,
што застаўся ад чыгуначнага моста?

альбо цеплыню,
што запоўніла дом
без батарэяў
без электрычнасьці
бязь Сеціва?

...альбо профіль старое гаспадыні
на тле густа пафарбаванай жоўтым алеем шафы
альбо смак ейнага варыва,
што запаўняе ўсе куты ўражаньня?

ці калі першынец ляжыць моўчкі
ў цябе на грудзёх
па пояс у вадзе?

альбо калі ён
абдымае малодшага
                    з усьмешкай
і вочы яго прамяняцца блакітам,
адбіваючыся ў позірку маці...



## ЖКГ



штораніцы
намагаемся
змыць твар

сьцерці зубы
счасаць мылам
далоні

марна імкнемся
запоўніць страўнік,
галаву, гаманец

выносім сьмецьце,
вяртаючы ў хату
жарала



## КРУГАЗВАРОТ



дождж невідушчы
абвастрае зрок

    калі сьвятло кроплямі
    асядае на лісьце

неба пухір
у рабацініьні зорак
бясконца разьдзьмуты

    калі вечар-падлетак
    сарамліва чырванее
    ў мокрым шкле

вада поруч з Сонцам
дае колер каменьню ды лісьцю
змушае зьзяць і адлюстроўваць

    калі немаўля малюе
    ў паветры знакі
    у мокрым пяску цішыні,
    перабірае струны
    прамянёвае арфы
    покуль маці
    сушыць кругі...



## КЛЁК



кішэня выпуклая яблыкам
ля ручая, пенай белага,
выбухае пучок пятрушкі
думка выступіла гузам на ілбе

разбоўтаныя сьцёгны
грудзі плаваюць
вочы выплюхваюцца
пад расьпертае лагво

масы мяса, пара з роту
сутыкаецца з атмасфэрай
кноты попельных валасоў
змотваюцца ў кабэль пупавіны

твар патанае ў барадзе
губляецца клёк пакрокава,
але нібыта паліты алеем
прасьлізгваю скрозь натоўп



## ЭКСПАНЭНТА

магу абняць галоўку сына падбародзьдзем
магу разгледзець сьлізготкую думку пад корабам жонкі
капіюю бацьку
                                    нават дыханьнем
паўтараюся братам і сынам
пладжуся ды множуся
рушу з працы дахаты





## PRONTO



патэлефанавала цішыня:
    варта быць асьцярожным
    табе са мною –
    ціск радыкалізуе супрацiў
    да поўнага зьнішчэньня





пад’езд захаваў
прахалоду ночы
салёная сівізна
ставіць вопыт з дажджом

аголены голаў двара
дымка па-над праспэктам
неба ромб рабром
па страсе «хрушча»

людзі на прыпынку
ў шахматных клетках,
паглыбленыя
ў сеціва музла



## АНУЧЫ



з ранішняга неба
зьвісае слова «крыло»
кросны дахаў ткуць «лівень»
кінатэатар не «Ракета», бо
рамонтнікі зьнялі назоў
(ці вернуць?)

чырвоны
з гледзішча васьмінога –
колер старасьці
чым бліжэй да канечнага пункту,
тым ярчэй зьзяеш

у трубах
між вадой
забіваецца паветра
у барадзе
гуляе вецер,
мне яе, мне яе, мне…

*у роце пазногаць*
*і пук валасоў –*
*пэўна, я*
*хворы на «я»*

калі граю,
забываюся
на значэньні слоў
шукаю трубу,
гляджу на яе
й ня бачу

празь недасып
труся аб паветра
сам калючы

і восень ахінае
                    ваўнянай коўдрай

*музыкай займаюцца*
*ня тыя й не для тых*
*ё ўсё ды*
*няма «я»*



галоўнае ня від, а гук:
    машына чорная
    машына шэрая
    машына зялёная
    машына чырвоная
    машына шэрая
    машына шэрая
    машына шэрая
    машына цёмна-сіняя…
такія мокрыя анучы думак!



## КАТАРСІС



у паралель чыгунцы
гарбузы
пад ціскам хмараў

студэнтка з выразам
насупраць сьпіць

*ехаць ехаць ехаць*
*ехаць ехаць ехаць ехаць...*
*шкандыбаць швэндацца*
*каціцца колам па навакольлі*
*каб карцінка плыла*
*плыць плыць плыць*
*каціцца круціцца коўзацца*
*колам па коле*

крок спружыніць твар
узмакрэлая тынкоўка зелянее,
вымалёўвае пэйзаж
і паглыбляецца ў бездань

іржавыя баржы на Сожы
такога ж колеру парк
хмара прыляпілася да столі,
бы яблыкі да павек сьпячай

яна сышла, калі вагон сеў на Гомель
...

на шыбе ў штрыхі кроплі
і на ноч два вядры вугалю

## ВЫГАРАНЬНЕ

як толькі пачынаеш любіць сваю працу,
яна ацьвераджае беспадстаўнымі абвінавачваньнямі,
алягічнасьцю парадоксаў ды кагнітыўнымі дысанансамі

праца змушае ўзгадваць пра сьмерць
мазолісты мозаг пашырае сьпіс нерукапацісканых

увогуле, ня памятаю, калі апошнім разам прачынаўся
бадзёрым
з прадчуваньнем грандыёзных падзеяў, падарункаў,
адкрыцьцяў
зь неабмежаваным запасам часу й адсутнасьцю тэрміновых
справаў

хіба што толькі ў дзяцінстве
падчас летніх вакацыяў
у іх самым пачатку





## ЭЮ – АЕ



на каленях па сыне
жонка абдымае за плечы

я – гара
гару й грэю-
*эю-эю...*

і сыны ў адказ
і жонка, як ЦЭЦ і ГЭС

суцяшае й церпіць,
гладзіць і ўзвышае-
*ае-ае...*



## КРЫЖ



жывы
насуперак і ўпоперак
жывы
на Поўдзень праваруч
жывы
наўзбоч на Ўсход
жывы
уніз-угару
жывы
на мапе рэжу
крыж



## СЭРЫЯЛ



*«Навародак пазірае на паўтарагадовага,*
*як старэйшы на малодшага», –*
*мовіў патэнцыйны хросны бацька*
*ў прысутнасьці сваёй верагоднае сужэнкі*

у час, калі сыстэма руйнуецца
асабліва саграваае несваяцкая цеплыня

*«Шлюбнікі зь цягам часу мяняюцца паламі», –*
*кажа ён жа*

ў той самы час



## НЭКРОЗ



юнак любіць ранак
старэчы да спадобы вечар

ноч цякла ціха й густа
скрозь пазлы целаў

дзень дзівіўся
са сноў вясны

Паўмесяц над лазьняй
Сонца рак даўгавусы

ліпень зьліты ў згін
сьнег лёг па краёх

павекі мнуць бялкі
сасуд малюе сьцяг

*Нямігі енк*
*пад псэўданімам Менск*
*Літвы лямант*
*з-пад Белоруссии*

хачу ўціснуцца ў цябе
між ног між грудзей
пад паху ў валасы
ў рот

мільён нулёў
міргаю сынхронна
зь лічбамі –
і часу няма

акуляры састарэлі
хутчэй, чым я
знасіліся дзясяткі ботаў,
бо нядольныя да...



цела з гадамі моршчыцца
ад навакольнага хараства
рот заткнуты бургерам,
вушы плэерам,
вочы маніторам
і годнасьць у надзейным кулаку

аднак
назіраньне зьмяняе
аб’ект і суб’ект

пачынаю думаць,
што й ня варта
пачынаць ду...





раптам зьнянацку няўрокам
зьнік растаў выдаліўся
ня тут, ня там, не пасярод
не часова й не назаўжды

- *што далей, Божа?*
*супакой*



## МІРГАНЬНЕ
## (Rock around the clock)

мінулае – экран будучыні



бы ракі
рушым
наперад
сракай

будучыня – цень цяпершчыны

ужо ня хлопчык,
але й дарасласьць
прайшла непрызнанай,
што сіротка старанны

па коле
па схіле сьпіралі

г а д з і н ь н і к - в я т р а к
п а в е т р а н ы к а м е н ь



мінуў час старэчы
ня будзьма стамляцца

ківач паглыбляецца
нябожчыкі не стамляюцца

«плыве акіян»
«час маладзее»





проста сьвятло
нязгаснага Сонца
кладзецца
покрывам
на далоні

проста выдых
няспыннага ветру
зрывае
дахі й твары
астатніх

проста голас
нябёснага лёгасу
струменіць
празрыста
наскрозь

проста вагонь
зь няўмольнае раны
вызваліў
душы
праведнікаў



## НА КРУГЛАЙ

- Праз мароз
далей бачна,
ранак
ясна й ласкава
дыхае плошчай...



- Пахучыя старэчы,
бо падсушаныя,
як грыбы,
у маладых зашмат вады –
ніхто ня вечны



## ДАМБА



адыходзяць апошнія воды
ў чорны каціны вышчар,
зьнясілена ўзбуджаны
прысмакам сталага сьнегу

цела плыве разам зь местам
па брудных асьлізглых пустках
скрозь дрот, бэтон і бутэлькі
да дамбы на Сьвіслачы





дыміцца Месяц
гарбата фарбуе паперу

студзень паветра
   тонкім струменьчыкам
      поўніць лёгкія й страўнік
зьнямелі мезенцы
струхнеў гарэх грэцкі
плённа адбыў свае дні
ад кулі да труны

а тваё цела зьзяе белым
штрыхамі карабельных рэбраў
з-пад густых грудзей,
што выстрэльваюць зорным сьнегам
сьліна робіць вочы відушчымі
выпроствае вузлы

устаю Лазарам
сабраўшы ў кучу мозаг
і мезенцам гатовы ціснуць
на ніжняе «до»





у горадзе мёртвых
у раёне зданяў
на вуліцы прывідаў
у квартале зомбі
у доме самнамбулаў
у кватэры псыхапатаў
пад промнямі тэлевізара
з выявай гаранта рагатага
сьпее кабачок

калі можа быць што заўгодна
значыць і быць магло
было, ёсьць і будзе
Бог ведае што





Хрыстус думаў, не пазнаюць,
а Яго й не заўважылі

«Бачу людзей, што праходзяць, як дрэвы»
«Кожны вагнём асоліцца»





ня маю адказу

лістую
званю
пытаю

ня маю адказу

ні так
ні гэтак
ні аніяк

ня маю адказу

...смачна есьці
незавітаўшым!





у плыні павольнай
    зьдзяйсьняюцца мроі,
    на якія й думаць забыўся

з 14-45 да 15-00
час традыцыйна затарможваўся
рабіў працяглы ўздых
да яшчэ больш даўжэйшага позеху
    загарак – самурай-самаед
    праглынуў сябе па квартах
    палачкамі стрэлак

пупец разьвязаны
неба кудлаціцца ў засмуж



## ПА ПАНКУ І



асалода суцішвае крывабег
дамова спыняе ледастаў

stop пост!
сон go on!

сьсем прадукты згіну
ямо забітых сьвіньняў

stop пост!
сон go on!

асалода згіну
асалода згіну

stop пост!
сон go on!



# ПА ПАНКУ II



рушым з рупарам
парушаць шрубы

мурабуры!
мурабуры!

бура ставіць
зрубы рубам

мурабуры!
мурабуры!

Рым брацьморам
рады даць марам

мурабуры!
мурабуры!



## МОЙ РАЁН
## (сачыненьне)

*Слухай, браза! Я зь Велаза.*

Мой раён
– гара на высьпе. Да цэнтру блізка. Адрэзаны ад Менску рэйкамі ды рэкамі – зыгзагам Сьвіслачы ды Сьляпянкай, роўналежна каторай насыпаны вал. Зьнізу колісь цыганы атабарыліся. Барон жыў на Рабочым завулку, гандляваў гарэлкай за бацькам усьлед. Зь местам злучае хіба тунэль, разьвязка ды пара мастоў.
Ты ў горад? – Так!

Мой раён
трымае хрыбетнік – Партызанскі праспэкт. І ў дадатак Фабрычная – вуліца простая, як ствол: ад чыгункі да чыгункі, ад барака Кляшторнага міма камітэцкае будкі праз Чортаву браму ды ў арку ля булачнай. Паралельна ляжыць Трасьцянецкая з дамбай. І Серафімовіча да кірмаша на скрыжаваньні, дзе сьсеклі разголую вярбу.
Штосьці яшчэ? – Так!

Мой раён
узыходзячага Сонца (!) мае ўласную чыгуначную станцыю «Менск-Усходні», аўтобусную станцыю «Ўсходнюю». Непадалёк – аўтавакзал «Усходні» й кола ад трамвайнага дэпо, дзе здымалі багата кіно. Чым не правінцыйны гарадок? Мае станцыю мэтро «Пралетарскую» са схаваным вэстыбюлем. Падлеткамі падпрацоўвалі на разгрузцы кавуноў і дыняў.
747-ы кілямэтар? – Так!

Мой раён
‘шчэ гудзіць «Мотавэлам», што займае палову прасторы. Падрэзаў пятлю ракі сабою. Дзе твая трафэйная гальваніка? Да вайны тут мусіў быць «Беларусьфільм». Вятрыска даносіць пахі какава-бабоў з «Камунаркі», брагі з дражджавога камбінату ды лікёра-водачнага, гудкі цягнікоў і клёкат колаў на Маскву, крыкі кірляў з лукавіны. Склад драўляных скрыняў ад «Пекераўскага» заўжды сьмярдзеў рыбай, пакуль прылюдна не згарэў. Там хаваліся ад бацькоў другагоднікі.
Піць будзеш? – Так!

Мой раён
зьмяшчае кіно «Ракету», басэйн з гумовым стадыёнам, лазьню, дзе скралі Ганчара, фотаатэлье зь нязьменным габрэем, адзіную ў горадзе нотную бібліятэку, СШ імя Багдановіча, музычную школу з джазавым ухілам, натарыяльную кантору ды ДАІ, пральню, паліклініку, галубятню з часоў Алімпіяды, ДК для выбараў, фабрыку для кабетаў, сталоўку для геяў, амбасаду Ізраіля й пункт здачы шклатары.
Ты крайні? – Так!

Мой раён
захаваў бамбасховішчы ў кожным двары. Узоры пасьляваеннае архітэктуры, пачынаючы ад палонных немцаў: сталінскі ампір, хрушчоўкі, панэлькі, з абсыпанай кафляй збуды. Ад зьнесеных баракаў застаюцца склепы. «Я жыву ў жыдоўскім доме!» – лямантуе суседка. Усьцяж завулкаў ды вулак – інтэрнаты для самотных кабетаў, садкі, стаянкі, пусткі, стаянкі, садкі, пусткі... Па чыгунцы за дротам чаргуюцца базы, СТА, саўны, СТА, базы, саўны... Развал – сыходжаньне, развал – сыходжаньне... На паддашках і ў сутарэньнях – офісы, офісы, офісы...
Грошы ё? – Так!

Мой раён
– алімпіец, сталіца дваровых гульняў. Адбівалі мінусы, упячатвалі квадраты. Пырам моцна, шчотачкай дакладна, на калена навесікам. Нажамі зямлю дзялілі. Нашы ды фашыкі. Беглі тварамі праз разьвешаную бялізну. Стралялі гарохам, пугачамі з насосаў, паліваліся бутэлькамі з-пад шампуняў. Рабілі васьмёркі на ровэрах, сонейкі на арэлях. Ты – матала, ты – на вэрах. Польскія гумкі з Чэрвеньскага па чарзе ў роце мялі, дадавалі хто цукар, хто сочыва. Ішлі на рэкорды – жавалі тыднямі, покуль ня нылі сківіцы. Прывозілі гільзы з Азярышча, шчыльна набівалі сьцясанай з запалак сераю. Мачылі газэты ў салетры. Несьлі ў далонях карбід.
Дасі запаліць? – Так!

Мой раён,
увогуле, калісь зваўся Тры Карчмы, зьяўляўся пасёлкам «Камінтэрн» з палямі фільтрацыі. Гэта тут у школу прызначылі дырэктарам аматара дзяцей, а хлапца, якому цягнік адрэзаў ногі, забраў з сабой Клінтан. Гэта тут былы вучань згвалціў клясную кіраўніцу проста на вуліцы, узімку, пад вокнамі яе дома. Гэта тут абрубкі жаночых таполяў ды паўночныя дубы. Гэта тут ставок у бэтонным колцы, злучоны з Чорным морам. Гэта тут зь сярэдзіны праспэкту альбо маста праз чыгунку бачны Чырвоны касьцёл і салюты на Дзень гораду.
Ну, што ты тут?





яблык
з унутраным гаманцом,
насеньнем поўным,
восень несла

зямля
ногі зьвяла
далоньню зімы
прыкрылася

кроў
ледзь цячэ
іржавая
з крану

хлеб
ірвецца
ветрам
знутры



## ПРЫ СЬВЕЧКАХ

- Паміраем з выдыхам,
нараджаемся з уздыхам, –
кажа жонка

- Нараджаемся назаўжды! –
дадаю я ды сьведчу:
у жанчынаў адное імя



сумую, падсумоўваючы:
стукнула-грукнула 33

«Увечары лодка была пасярод мора,
а Ён адзін на зямлі»



# АЛЕЙ І МЁД II



п’ю ноч,
    дзень сьню
абраз гарыць,
    чуе вясну

адтуль
    з адтуліны Сонца
струменіцца
    мёд з малаком

атуліла
    як матуля
німбам-парасьсю
    цёплай слодыччу

акіян толькі сышоў
    пакінуў бурштын на соснах
пяшчаныя трасы й траву
    з глейна-алейным пігмэнтам

дубоў атрамант
    малюе сакрамэнт
капіляры становяцца бачнымі,
    а Сонца сьлізготкім да дна



## ЦЕЛАСЛОЎ



*чаму не забіраеш?*
*разьбяры, разьбі,*
*вылі, вырві, кінь,*
*спляж, замаж, абязваж,*
*выдалі бязь сьледу*
*вось жа выдатны момант –*
*татальны пат!*

адчуваю фізычна,
як пакідаюць сілы,
то ўжо не лянота

цела вэрбуецца:
вуза за вузай
становіцца літарай

і гарацьь камяніцы,
плывуць камяніцы
насупрацьь!!!



# ЗЬМЕСТ

**РОМБ ..........3**

Пэрфакарта ..........4
Praca – vita ..........5
Jon – Noj ..........6
Белы шум ..........7
Мядзьведзіха ..........8
Біткі ..........10
Праз Трактарны ..........11
Людзі на лёдзе ..........12
Радавод ..........13
Нядзеля ..........14
Нож ..........15
Кінагляд ..........16
Сьцяпянка ..........18
Камунія ..........19
Чаяванне ..........20
Цуды прыроды ..........21
Функцыя ды якасьць ..........22
Шарападобная ..........23
Ляхаўка ..........24
Сок ..........25

**НАРОСХРЫСТ ..........27**

«узмах нараджае полымя...» ..........28
d/b ..........29
Смактуноўскі ..........30
Арыгамі ..........31
Дабрабыт ..........32
Рэвэрс ..........33
Вячэра ..........34
Лекцыя ..........35
Абсэрвэр ..........36
Сьняданак ..........37
Крынічышча ..........38
Да Рыгі ..........39
СУМ – МУС ..........40
«ці то прысьнілася...» ..........41
Навіны ..........42
«квіток у спальны аўторак...» ..........43
Навыварат ..........44
Утрох ..........45

Позыў ....................................................................................46
Добрае раніцы .....................................................................47
Вітраж ..............................................................................48
Мама ....................................................................................49
Сутока ..................................................................................50
«узламаў калюжыну...» ........................................................53

**DEADLINE ........................................................................55**

Мута ....................................................................................56
Выдых ..................................................................................57
«разумныя думкі...» ..........................................................58
Patria ...................................................................................59
Чысты чацьвер ....................................................................60
Хаўер ...................................................................................61
Сьнег ....................................................................................62
Тая .......................................................................................63
СШ .......................................................................................64
Ня той ..................................................................................66
Пярэсмык ............................................................................67
weN ......................................................................................68
«ты так мовіш...» ................................................................69
Й! .........................................................................................70
«дзіцёнак разарваў лусту белага...» ...................................71
Сэрца – Лёгкае ....................................................................72
С/Т .......................................................................................73
«сум не сасьпеў...» ..............................................................74
«ісьціна перадаецца...» .......................................................75

**ЦЕНІ КВЕТАК ...................................................................77**

Жонцы .................................................................................78
Fog area ...............................................................................79
«выварочваю той сьвет...» ...................................................82
Літавор ...............................................................................83
«я – апарат...» .....................................................................84
«хлопчык узяў каменьчык...» .............................................85
«клён ценем сьцелецца...» ..................................................86
Пружанам ............................................................................87
Сьпека .................................................................................88
Мінакі .................................................................................89
«у нашым доме...» ...............................................................91
«гара паўстала...» ...............................................................92
«у густым паветры...» .........................................................93
«музыка высякае храм...» ....................................................94

Алей і мед I ....................................................................95
Сторч ....................................................................96
«старэча накараскаўся на высахлы куст...» ....................................................................97
«квадрат, абточаны да кола...» ....................................................................98
Stotis blues ....................................................................99

**ЗБОЖЖА ....................................................................101**

«аро,эба...» ....................................................................102
Бром ....................................................................103
Газ ....................................................................104
ЖКГ....................................................................105
Кругазварот ....................................................................106
Клёк ....................................................................107
Экспанэнта ....................................................................108
Pronto ....................................................................109
«пад’езд захаваў...» ....................................................................110
Анучы ....................................................................111
Катарсіс ....................................................................113
Выгараньне ....................................................................114
Эю – ае ....................................................................115
Крыж ....................................................................116
Серыял ....................................................................117
Нэкроз ....................................................................118
«раптам зьнянацку няўрокам...» ....................................................................120

**ДАМБА ....................................................................121**

Мірганьне (Rock around the clock) ....................................................................122
«проста сьвятло...» ....................................................................123
На Круглай ....................................................................124
Дамба ....................................................................125
«дыміцца Месяц...» ....................................................................126
«у горадзе мёртвых...» ....................................................................127
«Хрыстус думаў...» ....................................................................128
«ня маю адказу...» ....................................................................129
«у плыні павольнай...» ....................................................................130
Па панку I ....................................................................131
Па панку II ....................................................................132
Мой раён (сачыненьне) ....................................................................133
«яблык з унутраным гаманцом...» ....................................................................136
Пры сьвечках ....................................................................137
Алей і мёд II ....................................................................138
Целаслоў ....................................................................139

Віктар Сямашка. Шэсьць вершаваных цыкляў:
«Ромб», «НаросХрыст», «Deadline»,
«Цені кветак», «ЗБожжа», «Дамба»

Аўтарскія пунктуацыя ды артаграфія захаваныя.

Рэдактары: Віктар Жыбуль, Раман Яраш, Максім Іўкін
Вокладка: Дзяніс Кудраўцаў
Вёрстка: Кацярына Сарока

vvsiamashka@tut.by
logos-spermatikos.bandcamp.com
viktar-siamashka-and-company.bandcamp.com



wydawca: Agencja Wydawnicza Ekopress

ISBN: 978-83-62069-50-7

Białystok 2018